## ДРУГОЕ ПАСЛАННЕ ДА ЦІМАФЕЯ

## 1 (1-18)

[1]Павел, з волі Божай апостал Езуса Хрыста, згодна з абяцаннем жыцця ў
Хрысце Езусе – [2]Цімафею, умілаванаму сыну: ласка, міласэрнасць, спакой ад
Бога Айца і Езуса Хрыста, Пана нашага.
[3]Калі я няспынна ўспамінаю пра цябе ў сваіх малітвах ноччу і днём, я
ўдзячны Богу, якому на ўзор продкаў служу з чыстым сумленнем. [4]Узгадваючы
пра твае слёзы, я прагну ўбачыць цябе, каб напоўніцца радасцю. [5]Калі
ўспамінаю пра тваю некрывадушную веру, якая спярша жыла ў тваёй бабулі
Лаідзе і тваёй маці Эўніцы, я перакананы, што яна жыве таксама ў табе.
[6]З гэтай прычыны нагадваю табе, каб ты распальваў дар Божы, які ёсць у
табе праз ускладанне маіх рук. [7]Таму што Бог даў нам не духа боязі, але сілы,
любові і разважнасці. [8]Дык не саромейся сведчання нашага Пана, ні мяне, вязня
Ягонага, але далучыся да цярпенняў дзеля Евангелля паводле моцы Бога, [9]які
ўратаваў нас і паклікаў святым пакліканнем не за нашыя ўчынкі, але паводле
ўласнай пастановы і ласкі, дадзенай нам у Хрысце Езусе перад вечнымі часамі
[10]і адкрытай цяпер праз аб’яўленне Збаўцы нашага, Езуса Хрыста, які знішчыў
смерць і асвятліў жыццё і несмяротнасць Евангеллем, [11]дзеля якога я
пастаўлены прапаведнікам, апосталам і настаўнікам.
[12]З гэтай прычыны я і цярплю гэта, але не саромеюся, бо ведаю, у каго
паверыў, і перакананы, што Ён мае моц захаваць дэпазіт [веры] на той дзень.
[13]Трымайся прыкладу здаровага вучэння, якое ты чуў ад мяне ў любові і веры,
што ў Хрысце Езусе. [14]Захавай гэты прыгожы дэпазіт дзякуючы Духу Святому,
які жыве ў нас.
[15]Ці ведаеш, што ўсе з Азіі, сярод якіх Фігел і Гермаген, адвярнуліся ад
мяне? [16]Хай будзе міласэрным Пан да дому Анэсіфора, бо ён часта
падтрымліваў мяне і не саромеўся маіх кайданаў, [17]але, прыбыўшы ў Рым,
старанна шукаў мяне і знайшоў. [18]Няхай Пан будзе міласэрным да яго ў гэты
дзень. А колькі ён служыў мне ў Эфесе, ты лепей ведаеш.

## 2 (1-26)

[1]Ты ж, дзіця маё, умацоўвайся ў ласцы, што ў Езусе Хрысце. [2]А пачутае ад
мяне пры многіх сведках, перадай верным людзям, якія будуць здольныя
навучыць таксама іншых.
[3]Цярпі разам са мною як добры жаўнер Хрыста Езуса. [4]Той, хто служыць у
войску, каб падабацца таму, хто ўзяў яго на службу, не ўмешваецца ў
жыццёвыя справы. [5]Таксама і той, хто змагаецца як атлет, не стане
пераможцам, калі будзе змагацца не па правілах. [6]Земляробу, які працуе,
першаму належыць карыстацца пладамі. [7]Зразумей, што гавару; няхай дасць
табе Пан зразумець усё.
[8]Памятай  пра Езуса Хрыста з пакалення Давіда, які ўваскрос з мёртвых
паводле Евангелля майго, [9]за якое я цярплю нядолю аж да кайданаў, нібы
злачынца. Але Божага слова не зняволіш. [10]Таму я ўсё вытрымліваю дзеля

выбраных, каб і яны атрымалі збаўленне ў Езусе Хрысце з вечнаю славаю.
[11]Сапраўды, калі мы разам з Ім памерлі, то з Ім і ажывём; [12]калі церпім, то разам
з Ім валадарыць будзем; [13]калі адрачэмся, і Ён адрачэцца ад нас; калі мы не
верым, Ён застаецца верным, бо самога сябе адрачыся не можа.

[14]Нагадвай пра гэта, даючы сведчанне перад Богам, каб не спрачацца з-за
словаў, бо гэта не прыносіць ніякай карысці, а толькі шкодзіць слухачам.
[15]Старанна імкніся, каб Бог палічыў цябе годным, бездакорным працаўніком,
які правільна пераказвае слова праўды. [16]Пазбягай людскога пустаслоўя, бо гэта
вядзе да штораз большай бязбожнасці. [17]Словы такіх [людзей] пашыраюцца, як
гангрэна. Сярод іх Гіменэй і Філет, [18]якія адступіліся ад праўды, кажучы, што
ўваскрашэнне ўжо настала, і гэтым разбураюць веру некаторых. [19]Але Божы
фундамент стаіць моцна, маючы такую пячатку: «*Пан ведае сваіх*» і «*Няхай
адступіцца ад несправядлівасці кожны, хто заклікае імя Пана*». [20]У вялікім жа
доме ёсць не толькі залатое і сярэбранае начынне, але драўлянае і глінянае.
Адно – у пашане, другое – не ў пашане. [21]Калі хтосьці ачысціць сябе ад гэтага,
то стане начыннем пачэсным, асвячаным і карысным Пану, прыдатным для
ўсялякай добрай справы.

[22]Асцерагайся юнацкай пажадлівасці, імкніся да справядлівасці, веры,
любові, міру з тымі, хто заклікае імя Пана ад чыстага сэрца. [23]А неразумных і
бессэнсоўных спрэчак пазбягай, ведаючы, што яны прыводзяць да сварак.
[24]Слуга Пана не павінен сварыцца, а павінен быць ласкавым да ўсіх, здольным
да навучання і цярплівым, [25]спакойна настаўляць непрыхільных. [26]Можа,
калісьці Бог дасць ім апамятацца дзеля пазнання праўды і вырвацца з пастак
д’ябла, які аблытаў іх, каб падпарадкаваць сваёй волі.

## 3 (1-17)

[1]Ведай, што ў апошнія дні настануць цяжкія часы. [2]Людзі будуць
самалюбнымі, хцівымі, фанабэрыстымі, ганарыстымі, зламоўнымі,
непаслухмянымі бацькам, няўдзячнымі, нягоднымі, [3]непрыязнымі,
непрымірымымі, абмоўцамі, нястрыманымі, жорсткімі, ненавіснікамі дабра,
[4]здраднікамі, бяздушнымі, надзьмутымі, любячымі раскошу больш за Бога.
[5]Будуць мець выгляд пабожнасці, аднак адкінуць яе моц. Асцерагайся такіх, [6]бо
з іх ёсць тыя, каторыя закрадаюцца ў дамы і зводзяць хвейных жанчын,
абцяжараных грахамі, якія паддаюцца розным пажадлівасцям, [7]заўсёды
вучацца, але ніколі не даходзяць да разумення праўды. [8]Як Янэс і Ямбрэс
паўсталі супраць Майсея, так і яны сталі супраць праўды, людзі з сапсаваным
розумам, нявыпрабаваныя ў веры. [9]Але яны далёка не зойдуць, бо іх глупота –
так, як і тых, – стане бачнай усім.

[10]Ты пайшоў следам за маім вучэннем, за паводзінамі, за намерам, за
вераю, за цярплівасцю, за любоўю, за трываласцю [11]ў ганеннях і цярпеннях,
якія выпалі мне ў Антыёхіі, у Іконіі, у Лістры. Столькі ганенняў я перанёс, і ад
усяго мяне выратаваў Пан. [12]Усе, хто жадае жыць пабожна ў Хрысце Езусе,
пераследаваныя будуць. [13]Нягодныя ж людзі і ашуканцы будуць дасягаць
поспехаў у дрэнным, памыляючыся і іншых уводзячы ў зман.

[14]А ты трывай у тым, чаму навучыўся і што табе даручана, ведаючы, ад
каго навучыўся. Бо ад дзіцячых гадоў ведаеш святыя Пісанні, [15]якія могуць
навучыць цябе мудрасці дзеля збаўлення праз веру ў Езуса Хрыста. [16]Усё
Пісанне натхнёнае Богам і карыснае для навучання, для пераконвання, для
настаўлення, для выхавання ў праведнасці, [17]каб Божы чалавек быў дасканалы,
да ўсякай добрай справы гатовы.

## 4 (1-22)

[1]Перад абліччам Бога і Хрыста Езуса, які будзе судзіць жывых і памерлых,
Яго аб'яўленнем і валадарствам я заклінаю цябе: [2]прапаведуй слова, будзь
настойлівы ў спрыяльны і неспрыяльны час, аспрэчвай, папраўляй, заахвочвай з
усёй цярплівасцю ў навучанні. [3]Бо настане час, калі не будуць зносіць здаровага
вучэння, але паводле ўласнай пажадлівасці пачнуць памнажаць сабе
настаўнікаў, каб тыя цешылі ім слых. [4]І адвернуць слых ад праўды, і звернуцца
да баек. [5]Але ты будзь цвярозы ва ўсім, вытрымлівай зло, здзейсні справу
прапаведніка Добрай Навіны, споўні сваё служэнне.

[6]Бо я ўжо праліваюся, як ахвяра, і настаў час майго адыходу. [7]У добрай
барацьбе я змагаўся, бег скончыў, веру захаваў. [8]Нарэшце рыхтуецца мне вянок
справядлівасці, які дасць мне Пан, справядлівы Суддзя, у дзень той. І не толькі
мне, але ўсім, хто палюбіў Яго аб'яўленне.

[9]Пастарайся прыйсці да мяне неўзабаве. [10]Дэмас пакінуў мяне, палюбіўшы
цяперашні свет, і скіраваўся ў Тэсалонікі; Крэсцэнс – у Галатыю, Ціт – у
Далматыю. [11]Толькі Лука са мною. Забяры Марка і прывядзі з сабою, бо ён
найбольш карысны мне для служэння. [12]Тыхіка я паслаў у Эфес. [13]Як пойдзеш
да мяне, прынясі плашч, які я пакінуў у Карпа ў Траадзе, а таксама кнігі,
асабліва пергаменты. [14]Меднік Аляксандр праявіў у дачыненні да мяне шмат
зла – Пан адплаціць яму паводле ўчынкаў ягоных. [15]І ты асцерагайся яго, бо ён
моцна супраціўляўся нашым словам.

[16]Пры першай маёй абароне нікога не было са мною, але ўсе мяне пакінулі.
Няхай не будзе палічана ім гэта. [17]А Пан стаў пры мне і ўмацаваў мяне, каб праз
мяне здзейснілася прапаведаванне і каб пачулі ўсе язычнікі, а я пазбег ільвінай
пашчы. [18]Уратуе мяне Пан ад кожнай ліхой справы і захавае мяне для свайго
Нябеснага Валадарства. Яму слава на векі вечныя. Амэн.

[19]Прывітай Прыску і Аквілу, і дом Анэсіфора. [20]Эраст застаўся ў Карынце,
а хворага Трафіма я пакінуў у Мілеце. [21]Паспяшайся прыйсці да зімы.

Вітаюць цябе Эўбуль, Пудэнс, Лін, Клаўдыя і ўсе браты.

[22]Пан з духам тваім. Ласка з вамі.